# Віншуем з Днём Перамогі!




Рэгіянальная газета. Rh.by
25 год мы з вамі!
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».
8 мая 2020 года №19 (1306)
18+

# На фронт – з блакаднага Ленінграда



**Як беларускі хлопец Сцяпан Філіпоўскі жыў і працаваў у блакадным горадзе, а пасля яго абараняў**

старонка 7

Фота Настассі УТКІНАЙ, gettyimages.com. Калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.

**Рамадан у час пандэміі**
старонка 5

ISSN 1991–7155




Адсканюйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



Дискаунтер «ОСТРОВ ЧИСТОТЫ И ВКУСА» приглашает на работу:
• ЗАВЕДУЮЩИХ ТОРГОВЫМ ОБЪЕКТОМ
• ПРОДАВЦОВ-КАССИРОВ
• АДМИНИСТРАТОРОВ ТОРГОВОГО ЗАЛА (охранник+грузчик)
Контактный телефон: (8-029) 117-80-65
ЧТУП «ЗападХимТорг» УНП 590828925

**Маладзечанскі полк, які стрымліваў немцаў на подступах да Варшавы**
старонкі 18-19

**Вынікі футбольных матчаў у рэгіёне**
старонка 22

# Фізкультура па відэа і фотаздымкі з дамашняй работай

## У вілейскім каледжы ладзяць дыстанцыйнае навучанне

ВІЛЕЙКА

**Не так даўно па заявах на дыстанцыйным навучанні ў Вілейскім дзяржаўным каледжы было больш за сто навучэнцаў. Сёння іх 23.**

Пра тое, як хлопцы і дзяўчаты вучацца дыстанцыйна, карэспандэнту расказала намеснік дырэктара **Аксана Парфіновіч**.

– Мы атрымалі алгарытм правядзення вучэбных заняткаў з выкарыстаннем сучасных тэхналогій. На аснове гэтага алгарытму ў каледжы выдалі адпаведны загад. Дыстанцыйнае навучанне для тых навучэнцаў, якія засталіся дома, пачалі ад 13 красавіка, – расказвае намеснік дырэктара.

Выкладчыкі цяпер рыхтуюць электронныя матэрыялы для навучэнцаў і размяшчаюць іх у адпаведным раздзеле на сайце каледжа. Дапамагае інжынер-праграміст.

– На сайце мы выкладаем электронныя падручнікі па школьнай праграме і спецпрадметах, тэарэтычныя матэрыялы ад выкладчыкаў, заданні. Спачатку зрабілі раздзелы па прадметах. Потым вырашылі, што больш зручна будзе па вучэбных групах, – тлумачыць суразмоўца.

> **– Большасць навучэнцаў зробленыя заданні фатаграфуюць і дасылаюць выкладчыкам фотаздымкі на вайбер.**

Адмыслова выкладчыкі стварылі суполкі ў вайберы менавіта для тых, хто займаецца дома. Я таксама ёсць у такіх суполках. І ад раніцы назіраю, як педагогі раздаюць заданні кожнаму навучэнцу.



Скрыншот з відэа Вілейскага дзяржаўнага каледжа.

Навучэнкі пад кіраўніцтвам выкладчыцы Таісы Гамолкі робяць фізічныя практыкаванні для сябе і для тых, хто дома.

Адну групу ў каледжы цалкам перавялі на дыстанцыйнае навучанне. Там усяго тры чалавекі. А калі застаўся адзін, група стала працаваць на дыстанце.

Навучэнцы, якія пішуць курсавыя, таксама кантактуюць з кіраўнікамі работ па вайберы і электронцы. Многія прызнаюцца, што так нават зручней. У каледжы ёсць хлопцы і дзяўчаты з далёкіх гарадоў. І цяпер ім не трэба спецыяльна ехаць на кансультацыю.

Апошнімі днямі ў каледжы тэсціруюць правядзенне заняткаў у фармацэ відэаканферэнцыі на платформе Zoom. А некаторыя настаўнікі здымаюць на відэа свае ўрокі і выкладаюць у суполку каледжа «УКантакце». Напрыклад, так зрабіла выкладчыца фізічнай культуры **Таіса Гамолка**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


ОСТРОВ ЧИСТОТЫ И ВКУСА

ДИСКАУНТЕР

ПРОДУКТЫ ПИТАНИЯ • ТОВАРЫ ДЛЯ ДОМА

ОСТРОВ-ДОСТАВКА

Выгода с доставкой в каждый дом!

НОВЫЙ СЕРВИС

ЕЖЕДНЕВНО

В ВАШЕМ НАСЕЛЕННОМ ПУНКТЕ

ОСТРОВ-ДОСТАВКА

ostrov-shop.by

686-37-37

+375 44 781-82-68

15% скидка

Сморгонский район

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Осиновщизна | 10:00 | Стрыпуны | 12:20 | Шутовичи | 15:30 | Жодишки | 18:50 | Сморгонь | 21:00 |
| Васюки | 10:35 | Студенец | 13:20 | Залесье | 16:15 | Девятни | 19:25 | | |
| Солы | 11:05 | Белковщина | 13:50 | Белая | 17:20 | Марковцы | 20:00 | | |
| Кушляны | 11:40 | Светоч | 15:00 | Сосновка | 18:00 | Корени | 20:30 | | |

75 ПОБЕДА! 1945–2020

### «Остров-доставка»: Привезем ваши покупки в любую деревню или дачный кооператив!

Теперь доставка станет доступной даже для тех сельских жителей, которые не пользуются компьютером или смартфоном. Жители больших городов уже привыкли к тому, что походы по магазинам можно легко заменить доставкой. Выбираешь все, что нужно, сидя дома на диване - и курьер привозит тебе прямо домой и продукты, и стиральный порошок, и зубную пасту. Особенно актуальным это стало сейчас, во время вирусной инфекции, когда многие люди предпочитают оставаться дома. А вот у жителей сельской местности, к сожалению, часто такой возможности нет. Где-то в деревне не работает интернет, у кого-то нет компьютера, а в некоторые отдаленные районы автомобили доставки и вовсе не приезжают. Вот и получается, что даже в XXI веке единственная возможность сделать покупки для многих людей – дождаться, пока в их деревню приедет автолавка с набором самого необходимого... Популярная сеть магазинов «Остров чистоты и вкуса» решил исправить эту проблему. С 4 мая он запускает новый проект: «Остров-Доставка».

### Сделать заказ вам поможет агент

С 4 мая воспользоваться доставкой смогут даже жители абсолютно любого населенного пункта, при этом они смогут выбрать любые товары из огромного ассортимента магазина. Но как они это сделают, если многие пожилые люди, живущие в деревнях, не умеют пользоваться ни компьютерами, ни смартфонами? Им помогут специальные агенты «Остров-доставки». У каждого из них будет планшет с доступом в интернет, с помощью которого они будут консультировать покупателей, принимать заявки и передавать их в магазин. А 90 грузовых микроавтобусов и 140 маленьких грузовых фургонов будут каждый день развозить заказы по всей стране. Новый сервис предлагает два варианта доставки. Первый - когда покупки привозят покупателю прямо домой в удобное для него время. Второй – забрать заказ можно будет самостоятельно, когда автомобиль «Остров-доставка» приедет в ваш населенный пункт.

### Очень выгодные цены

Удивительно, но иногда в маленьких деревнях и поселках цены бывают выше, чем в больших городах, где огромная конкуренция и магазины буквально сражаются за своих покупателей, привлекая их скидками и акциями. С приходом «Остров-доставки» сельским жителям не придется переплачивать за покупки. Цены здесь очень выгодные: делая заказ, вы получаете скидку 15% от начальной цены на все неакционные товары, а также можете покупать многие вещи на акциях, где скидки доходят до 50%. Выбор здесь огромный: это и продукты питания, и бытовая химия, и косметика. Минимальный заказ – на сумму от 15 рублей. Доставка бесплатная.

ШИРОЧАЙШИЙ АССОРТИМЕНТ ТОВАРОВ И ВСЕ АКЦИОННЫЕ ПРЕДЛОЖЕНИЯ С ДОСТАВКОЙ НА ДОМ!
Заказ оформляется с помощью агента «Остров-доставка».
Минимальная сумма заказа 15 руб.

ЧТУП "ЗападХимТорг", УНП 590828925

Приглашаем на работу агентов по сбору заявок у населения
по тел.: +375 44 598-14-01
Ждем ваши резюме на эл. почту rabota@ostrov-chistoty.by и отклики на сайте www.ostrob-chistoty.by/vakansii



Смаргонь. Тут патрабуюцца работнікі ў гандаль і пакаёўка ў гасцініцу нават падчас пандэміі.

# Якія вакансіі ёсць у рэгіёне і дзе можна атрымаць больш за тысячу

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

**Знаёмцеся з вакансіямі, якія прапануюць на сайце Дзяржаўнай службы занятасці арганізацыі і ўстановы Смаргоні, Ашмянаў і Астраўца.**

### Астравец: шукаюць спецыялістаў на АЭС і ў аблспажыўтаварыства

У Астраўцы шмат вакансій ад расійскага прадстаўніцтва ў Беларусі «Атамбудэкспарт». Патрэбныя эксперты, інжынеры, геадэзіст. Заробкі ад 850 да 1 180 рублёў. Амаль у тры разы менш – прыбіральшчыцы і аператару ЭВМ, што прыйдуць у астравецкую школу №2, і ліфцёру, якога шукае садок №4.

У Астравецкі філіял Гродзенскага аблспажыўтаварыства трэба інспектар па кадрах, буфетчык, афіцыянт, повар, аператар ЭВМ, кіроўца аўтамабіля, кандытар, прадавец, слесар-сантэхнік, бухгалтар, інжынер. З усіх пералічаных найбольш абяцаюць прадаўцу – ад 600. Найменш – аператару ЭВМ – ад 375. Інжынеру – ад 500. Астатнім – ад 400-450.

Гродзенская абласная арганізацыя Асвод шукае ў Астраўцы матроса-выратавальніка. Абяцаюць ад 625 рублёў.

### Ашмяны: мытня, ДБУ, сельская гаспадарка

На Ашмяншчыне возьмуць некалькі спецыялістаў у Гродзенскую рэгіянальную мытню. Патрэбныя электрамеханікі, трактарыст і прыбіральшчык. Электрамеханік атрымае ад 860 рублёў.

**Трактарыст і прыбіральшчык, што будуць працаваць на паўстаўкі, – ад 277 і ад 233 рублёў адпаведна.**

Наступны спіс – ад дарожна-будаўнічага ўпраўлення №28. Шукаюць інструктара па фізкультуры і спорце, загадчыка канцылярыі, эканаміста, геадэзіста. Самыя высокі заробкі прапануюць эканамісту і геадэзісту – ад 670 і ад 650 рублёў адпаведна. Інструктару па фізкультуры – ад 150 – за працу на чвэрць стаўкі, загадчыку канцылярыі – ад 187 – за паўстаўкі. Столькі ж атрымае ліфцёр, які на паўстаўкі прыйдзе ў Ашмянскі райвыканкам, і сацыяльны работнік у тэрытарыяльным цэнтры абслугоўвання насельніцтва.

**На мясцовы дражджавы завод патрэбны грузчык. Заробак – ад 400.**

У электрасеткі возьмуць электраманцёра. Заробак – ад 435. Інжынер на гэтым жа прадпрыемстве атрымае амаль у два разы больш. А майстар участка – ад 1 050.

На сельгаспрадпрыемства ў Каменным Логу патрабуецца ветфельчар, юрысконсульт, трактарыст-машыніст, заатэхнік, аграном, кіроўца, аператар машыннага даення. З усіх пералічаных найбольш атрымае заатэхнік – 500 рублёў, пасля кіроўца – ад 450. Заробкі астатнім – ад 370 да 400.

Спецыялісты ў сельскай гаспадарцы патрэбны і на прадпрыемства «Кракаўка», што ў Жупранскім сельсавеце.

### Смаргонь: работнікі ў гандаль і сельскую гаспадарку

У гандлёвую сетку «Дабраном» шукаюць прыбіральшчыка, касіра гандлёвай залы, кантралёра-касіра, абвальшчыка мяса. Найбольш атрымае касір гандлёвай залы – ад 650. Найменш прыбіральшчык – ад 400. У крамы аблспажыўтаварыства возьмуць прадаўца з заробкам ад 450 і абвальшчыка мяса – ад 600. Гасцініца «Смаргонь» чакае пакаёўку. Заробак – ад 450.

Гаспадарка, што ў аграгарадку Ракаўцы, возьме трактарыста, агранома, ветэрынарнага доктара. Заробкі – ад 800 да 1400. У Смаргонскую раённую бібліятэку трэба бібліятэкар. Заробак – ад 375 рублёў.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**471**

**СТОЛЬКІ ГАЗЕТ ВЫДАВАЛАСЯ Ў БЕЛАРУСІ Ў 2019 ГОДЗЕ**

ПАВОДЛЕ BELSTAT.GOV.BY.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.04 | 7.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4361 | **2.4527** |
| Еўра | 2.6502 | **2.6518** |
| Злоты, 10 | 5.8124 | **5.8244** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3066 | **3.3099** |
| Грыўня, 100 | 9.0300 | **9.1225** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **29.04** | **6.05** |
| Еўра | 2.6000/2.7300 | **2.6000/2.6800** |
| Долар ЗША | 2.4200/2.5200 | **2.4000/2.4800** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **29.04** | **6.05** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 8,55 | **7,60** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,50 | **6,20** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,80 | **16,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,20 | **2,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,95 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,85 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,60 | **2,70** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,20 | **6,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Капуста, 1 кг | 1,50 | **1,30** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,50 | **2,70** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,30** |
| Перац, 1 кг | 5,90 | **6,90** |
| Радыс, пучок | 2,50 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 8,50 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,99** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,50 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,30 | **3,30** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Лімон, 1 кг | 6,90 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,80 | **4,50** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,50 | **2,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Касіра падазраюць у крадзяжы выручкі з касы

**АСТРАВЕЦ**

Касіра крамы з Астравецкага раёна падазраюць у крадзяжы выручкі.

Адміністрацыя гандлёвага аб'екта звярнула ўвагу на нястачу ў касе і звярнулася ў міліцыю.

– Аказалася, што да знікнення выручкі мае дачыненне кантралёр-касір крамы. Па версіі праваахоўнікаў, 20-гадовая дзяўчына на працягу некалькіх дзён брала грошы з касы. Страты перавысілі 1076 рублёў, – распавялі ў міліцыі.

Крадзеж зафіксавалі камеры відэаназірання.

**Паводле БелТА.**

## Жыхар Івянца пабіў шкло ў чатырох аўтамабілях

**ВАЛОЖЫН**

Па дадзеных следства, ноччу 30 красавіка ад жыхароў Івянца паступіла паведамленне пра тое, што нехта пашкодзіў іх аўтамабілі.

**Следча-аператыўная група на месцы здарэння ўстанавіла, што нецвярозы 38-гадовы мясцовы жыхар каменем, кавалкам шыферу і локцямі разбіў шкло ў чатырох аўтамабілях, прыпаркаваных каля жылога дома.**

Яго спынілі ўладальнікі аўтамабіляў, якія пачулі шум і выбеглі на вуліцу, расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Следчыя распачалі крымінальную справу па частцы 1 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (хуліганства). Дапыталі падазраваных, сведак, пацярпелых. Канфіскавалі рэчавыя доказы. Прымаюць меры па кампенсацыі прычыненай шкоды. Канчатковую прававую ацэнку дзеянням мужчыны дадуць па выніках расследавання.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына загінуў на лесанарыхтоўках

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта паведаміў Следчы камітэт Беларусі.

Па дадзеных следства, 29 красавіка індывідуальны прадпрымальнік і жыхар Вілейскага раёна праводзілі лесанарыхтоўчыя работы ў Лагойскім раёне. Падчас валкі лесу ў выніку амартызацыі спілаванага дрэва 39-гадовы напарнік прадпрымальніка атрымаў цялесныя пашкоджанні, ад якіх памёр на месцы.

Следчымі праведзены агляд месца здарэння, прызначаны шэраг неабходных экспертных даследаванняў. Узбуджаная крымінальная справа па ч.1 арт.144 (прычыненне смерці па неасцярожнасці) Крымінальнага кодэкса.

Праводзяцца неабходныя следчыя дзеянні. Канчатковая прававая ацэнка будзе дадзеная па выніках расследавання.

**Следчы камітэт Беларусі.**

## Згарэў аўтамабіль і пацярпела ад агню шэсць гаражоў

**АСТРАВЕЦ**

2 мая здарыліся пажары на Астравеччыне.

Ноччу ў 2:10 астравецкім выратавальнікам паведамілі, што гарыць аўтамабіль «Пежо-206» у вёсцы Дайноўка.

**У выніку агонь цалкам знішчыў аўтамабіль. Мяркуюць, пажар здарыўся з-за няспраўнасці электраправодкі.**

Каля пяці раніцы паведамілі, што гараць гаражы ў Астраўцы, на вуліцы Міру. У выніку агонь пашкодзіў дахі і перакрыцці шасці гаражоў. Магчымая прычына – кароткае замыканне электраправодкі.

**Паводле МНС.**

## Згарэла аўто. Мяркуюць, што з-за кароткага замыкання

**МЯДЗЕЛ**

Верагодна, з-за кароткага замыкання праводкі ў Мядзеле згарэў аўтамабіль.

4 мая каля апоўначы ў Мядзельскі РАНС паступіла паведамленне аб пажары. На вуліцы Чырвонаармейскай у Мядзеле загарэўся аўтамабіль «Сітраэн».

Агонь пашкодзіў салон і маторны адсек аўтамабіля, расказала інспектар групы агітацыі і навучання **Ірына Карапецян**.

Таксама пашкоджаныя два аўтамабілі, якія стаялі побач з «Сітраэнам» .

Меркаваная прычына – кароткае замыканне праводкі.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота pikabu.ru

Калі мужчына падумаў, што запусціць феерверк не атрымаецца, ён раптам выбухнуў.

# Мужчына запускаў феерверк і параніў рукі і ногі

**ВІЛЕЙКА**

**29 красавіка медыкі з «хуткай дапамогі» паведамілі ў Вілейскі РАУС пра тое, што ў вёсцы Ізбіно мужчына параніў кісці рук, ногі, правае перадплечча.**

Міліцыянеры высветлілі, што 43-гадовы жыхар Ізбіно атрымаў раненні, калі запускаў феерверк. Перад Новым годам мужчына набыў два феерверкі. Адзін запусціў на навагоднія святы, другі пакінуў на сямейную ўрачыстасць і захоўваў у гаражы.

29 красавіка каля 20:00 вырашыў запусціць яго. Зафіксаваў феерверк на зямлі, прысеў і стаў падпальваць кнот. Доўгі час у яго не атрымоўвалася.

**Мужчына вырашыў, што феерверк сапсаваўся. Ён перастаў падпальваць кнот. Але як толькі пачаў уставаць у поўны рост – феерверк выбухнуў.**

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Мікалая Мягкова**, медыкі, якія прыбылі на месца, дапамаглі мужчыну. Больш нікто з сям'і не пацярпеў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На будоўлі сабралі больш за кілаграм ртуці

**МАЛАДЗЕЧНА**

29 красавіка каля 10 раніцы выратавальнікам паступіла паведамленне пра тое, што знайшлі ртуць на вуліцы Зялёнай у аграгарадку Яхімоўшчына.

На месцы спецыялісты высветлілі, што пры правядзенні будаўнічых работ работнікі УП «Камунальнік» знайшлі ртуць.

Выратавальнікі сабралі каля 1100 грамаў адходаў, якія ўтрымлівалі ртуць. Пры дапамозе ртутнага аналізатара правялі замеры наяўнасці пары ртуці ў паветры. Перавышэння не выявілі. Сабраную ртуць змясцілі ў палімерную ёмістасць і канфіскавалі для далейшай утылізацыі, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

**МНС нагадвае:** ртуць паражае цэнтральную нервовую і сардэчна-сасудзістую сістэмы, страўнікава-кішачны тракт, органы дыхання, печань, селязёнку, ныркі. Калі ў вас разбіўся тэрмометр, а шарыкі ртуці паскакалі на падлозе, іх трэба старанна сабраць. Выведзіце з памяшкання дзяцей, сталых людзей. Расчыніце дзверы і вокны. Абараніце органы дыхання вільготнай марлевай павязкай. Не дапускайце скразняку – шарыкі ртуці могуць разлящецца па ўсім пакоі. Буйныя шарыкі ртуці збярыце пры дапамозе пэндзліка ў папяровы канверт. Спрынцоўкай можна сабраць больш дробныя шарыкі, а для самых маленькіх падыдзе лейкапластыр або скотч.

**Сабраную ртуць неадкладна скідайце ў слоік з растворам двух грамаў марганцоўкі на літр вады.**

Слоік шчыльна закрыйце. Ачышчаную паверхню апрацуйце растворам марганцоўкі або мыльна-содавым растворам. Аднясіце сабраную ртуць у бліжэйшы аддзел па НС.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гарэў аўтамабіль БМВ

29 красавіка на нумар 101 паступіла паведамленне аб загаранні аўтамабіля па вуліцы Нагорнай у Маладзечне. Па дапамогу да выратавальнікаў звярнуўся гаспадар аўтамабіля.

У выніку загарання ў БМВ 2003 года выпуску пашкоджаны маторны адсек і капот аўтамабіля, лопнула лабавое шкло. Прычына пажару ўстанаўліваецца. Разглядаецца версія – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

**МНС нагадвае:** як толькі вы адчулі пах бензіну, гарэлай гумы ў салоне – неадкладна спыніце машыну і высветліце прычыну. Калі з капота аўтамабіля пайшоў дым, выклікайце выратавальнікаў. Пачынайце тушыць самастойна, бо аўтамабіль можа цалкам выгараць на вашых вачах.

**Паслядоўнасць дзеянняў пры тушэнні аўтамабіля наступная:** трэба прыадчыніць капот і ў шчыліну ўставіць раструб вогнетушыцеля, збіць полымя. Толькі потым можна асцярожна адкрываць капот. Абясточце аўтамабіль. Лепш каб быў пяцілітровы парашковы вогнетушыцель.

Калі пажар у аўтамабілі пачаўся з салона, агонь хутка распаўсюджваецца па абіўцы. Калі гарэнне распаўсюдзілася ў тую частку аўтамабіля, дзе знаходзіцца бензабак або газавы балон, адзінае, што вам трэба зрабіць – гэта хутка адысці ад машыны на дастатковую адлегласць.

**Аддзел інфармацыі.**


Падчас мерапрыемстваў да Дня Перамогі.

# Дашкольнікі далучыліся да святкавання 75-годдзя Перамогі

СМАРГОНЬ

**Напярэдадні 75-годдзя Перамогі на працягу тыдня педагогі з выхаванцамі смаргонскага ясляў-сада правялі шэраг тэматычных мерапрыемстваў. Педагогі пастараліся перадаць уласныя веды пра падзеі тых гадоў, пра тых, хто загінуў у гады Другой сусветнай вайны.**



У групах правялі гутаркі на тэму вайны, чыталі кнігі, афармлялі альбомы і выставы, успаміналі ўсіх тых, хто коштам уласнага жыцця атрымаў перамогу над фашызмам. Ва ўстанове аформілі кніжную выставу «Чытаем дзецям пра вайну». Спадзяёмся, нашы выхаванцы запомнілі апавяданні пра гераізм, мужнасць, стойкасць салдат.

Удзел дзяцей старшых груп у флэшмобе «Дзень Перамогі ў сэрцы нашчадкаў» спрыяў выхаванню ў іх пачуцця патрыятызму і гонару за сваю краіну.

**Вершы пра Радзіму і пра Дзень Перамогі, якія прачыталі дзеці, педагогі запісалі на відэа і прадэманстравалі дзецям з іншых груп.**

Бацькі нашых выхаванцаў таксама паўдзельнічалі ў тэматычных мерапрыемствах. Яны падрыхтавалі выставу «Дарослым і дзецям патрэбны мір на ўсёй планеце». На выставе дзеці разглядалі тэматычныя паштоўкі, плакаты, ваенную тэхніку. І выхаванцаў, і педагогаў асабліва зацікавіў адзін экспанат выставы – нумар газеты «Праўда», што выйшла 10 мая 1945 года. На выставе дзеці таксама разглядалі фотаздымкі і медалі сваіх прадзедаў.

Выхаванец сярэдняй групы **Радзівон Марчанка** распавёў пра свайго прадзеда, які ў гады Другой сусветнай вайны быў снайперам, дайшоў да Берліна. За доблесць і адвагу яго ўзнагародзілі ордэнам Вялікай Айчыннай вайны, а таксама медалямі «За баявыя заслугі», «За ўзяцце Берліна», «За перамогу над Германіяй».

**Ірына ЗЯНКЕВІЧ, намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці, Алена ТРАСКОЎСКАЯ, музычны кіраўнік ясляў-сада №15 Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарамі.**

## Урад удакладніў правілы самаізаляцыі

Адпаведная пастанова Саўміна ад 5 мая №268 афіцыйна апублікаваная сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Захварэлыя на каранавірус абавязаныя паведамляць пра крыніцы заражэння, а таксама расказваць пра свае кантакты і месцы знаходжання.

**Заражаныя і кантакты першага ўзроўню абавязкова праходзяць медыцынскі агляд.**

Тэрміны знаходжання грамадзян у самаізаляцыі могуць быць прадоўжаныя або скарочаныя па рашэнні дактароў.

**Вызначана, што дзеці да дзесяці гадоў павінны самаізалявацца, калі яны з'яўляюцца кантактамі другога ўзроўню, маюць адзін або некалькі рэспіраторных сімптомаў і наведваюць дзіцячыя сады або школы.**

Знаходжанне непаўналетніх грамадзян у самаізаляцыі забяспечваюць іх законныя прадстаўнікі.

**Паводле pravo.by.**

## На Беларускую АЭС завезлі ядзернае паліва

АСТРАВЕЦ

На пляцоўку будаўніцтва Беларускай атамнай электрастанцыі прыбыў састаў з ядзерным палівам для першага энергаблока, паведамілі ў прэс-службе Міністэрства энергетыкі Беларусі.

«На АЭС забяспечаная неабходная тэхнічная гатоўнасць памяшканняў, абсталявання, сістэм і элементаў, а таксама арганізацыйная гатоўнасць персаналу станцыі да бяспечнага абыходжання са свежым ядзерным палівам. Да завозу паліва ў адпаведнасці з нарматыўнымі дакументамі аб'екты першага энергаблока перададзеныя пад ахову ўнутраных войскаў у штатным рэжыме», – паведамілі ў прэс-службе.

У адпаведнасці з тэхнічным рэгламентам, спецыялісты Беларускай АЭС сумесна з генеральным падрадчыкам – АСЭ – забяспечаць прыёмку паліва і правядзенне яго ўваходнага кантролю.

**Аддзел інфармацыі.**

## Галоўным ідэолагам Гродзенскага аблвыканкама стаў ураджэнец рэгіёна

АШМЯНЫ

Начальнікам галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама прызначаны **Ігар Булаўка**.

**Вядома, што Булаўка з'яўляецца ўраджэнцам Ашмянаў. Аб гэтым паведаміла ашмянская раённая газета.**

Раней Булаўка быў супрацоўнікам КГБ. Ён займаў пасаду начальніка аддзела абароны канстытуцыйнага ладу і барацьбы з тэрарызмам упраўлення КГБ па Гродзенскай вобласці. На «Беларусь 4» сказалі, што раней дзейнасць Булаўкі была звязаная з сілавымі структурамі.

Раней пасаду начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы і па справах моладзі аблвыканкама займаў **Аляксандр Вярсоцкі**. У сакавіку 2020 года Лукашэнка прызначыў яго старшынёй Свіслацкага райвыканкама.

**Настасся УТКІНА.**

## Гарачую ваду ў маі адключаць не будуць

ВІЛЕЙКА

З-за неспрыяльнай эпідэміялагічнай сітуацыі тэрміны гідраўлічных выпрабаванняў цеплавых сетак у Вілейцы ў зоне абслугоўвання міні-ЦЭЦ праводзіць не будуць. Гэтыя работы перанеслі на жнівень – ад 10 да 23.

**Аддзел інфармацыі.**

## У музеі ў Заброддзі не будзе мерапрыемстваў да Дня Перамогі

Пра гэта паведамляюць арганізатары.

«Сёлета наша традыцыйнае святкаванне 9 Мая ў Заброддзі адмяняецца. Першы раз за 37 год. Усім здароўя», – пішуць арганізатары.

Нагадаем, што ў музеі Першай сусветнай, створаным Цітовічамі, святкаванне 9 Мая ладзілі штогод. Былі песні, салдацкая каша, экскурсіі і іншыя мерапрыемствы.

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., сталі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 3668181.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Пежо-406, універсал, 1,8 бензін, 1998 г.в., 4940 руб., торг. Т. (8-033) 3654387, Вайбер (8-025) 7006973.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-033) 6612163.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Участак 25 сотак з трухлявай пабудовай у в. Старыя Баруны Смаргонскага раёна. Т. (8-029) 7754975.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ.** ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## УВАГА!



**Прапала лайка!** Згубілася ў Маладзечанскім раёне паблізу вёсак Чэхі, Селяўцы, Тучына, Кічына, Хоўхлава, Ермакі, Бярозаўцы, Броды, Гарадок. Асобыя прыкметы: руговая мочка носа, на пахвіне кляймо ў выглядзе лічбаў. Усіх, хто валодае інфармацыяй пра месца знаходжання сабакі, просім паведаміць па тэл. **+375-44-77-88-995.** За праўдзівую інфармацыю пра месцазнаходжанне сабакі чакае ўзнагароджанне!

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Бытавая тэхніка**

• Пральная машына-аўтамат Candy. Як новая. Нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**


АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ
(8029) 762-78-98
(8029) 332-67-79
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413


**Жывёла, птушка, пчолы**

• 3 уласнага падвор'я прадаюцца: 1. Каза з дзвюма 2-месячнымі казлянятамі (цана 140 руб.) альбо асобна прадаюцца 7 казлянят 2,5 месяца (цана 60 руб.) – 3 козлікі і 4 козачкі. 2. Авечка з ягнятамі (цана 180 руб.), 5 галоў, і асобна ягняты – 8 галоў раманаўскай пароды, 2,5-месячныя, па 60 руб. Магчымая дастаўка па Мінскім, Маладзечанскім, Вілейскім, Смаргонскім раёнах, Астраўцу, Ашмянах. Т. (8-044) 4812864, (8-029) 9380010.

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*

• Парасяты кармалаў, бульба. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.


• ИЗМЕЛЬЧЕНИЕ ВЕТОК В ЩЕПУ
• УДАЛЕНИЕ ПНЕЙ
• ВЫВОЗ
• АРЕНДА ТЕХНИКИ
Гарантия 100%
Тел. (8-033) 6330830 Вайбер
ИП Тавгень Е.П. УНП 691882722



• АРМАТУРА
• ТРУБЫ
• МЕТАЛЛОПРОКАТ
• ПРОФНАСТИЛ
РЕЗКА, ДОСТАВКА
Аренда автокрана
г.Молодечно, ул. Рабочая, 8а/1
(8-0176) 58-04-76, 50-56-53
(8-029) 196-90-53 (-23), (-43)
ООО «Молметаллоконтракт» УНП 691398156


• Цялушка пакрытая, першацёлка пакрытая. Т. (8-029) 8568818.*

**Іншае**

• Дзве дзіцячыя ванначкі для купання (па 10 руб.), кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), электрычны малакаадсос (30 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

• Чарапіца керамічная плоская 100 кв. м, вокны на веранду 0,9*1,5 – 3 шт., кацёл для лазні. Вілейка. Т. (8-029) 1057622.*

• **КАМБІКОРМ, ЗБОЖЖА, ВОТРУБ'Е, КРУПЫ** з дастаўкай на дом па Вілейскім раёне. ПП «ВітМа 2007» УНП 690626823. Т. (8-029) 3999466.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Арматуру, вугалок, профіль.Т. (8-029) 3068662.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Прадавец у а.г. Палачаны. З/плата 400-700 руб. Т. (8-029) 6383331.*


БТПР
ОТКРЫВАЕТСЯ ОХОТА
в арендованных охотугодьях учреждения «Молодечненская районная организационная структура РГОО «БООР» **на косулю самца взрослого** и **селекционных животных** любого пола и возраста **с 15 мая по 30 сентября 2020 г.**
Справки по тел. (8-0176) **73-63-14**
УНП 691295389



БТПР
изготовление ЗАБОРОВ ПОД КЛЮЧ (монтаж, демонтаж)
профнастил, штакетник, евроограждение
надежно, честно, в срок
РАССРОЧКА до 20 месяцев, кредит до 5 лет
Бесплатный замер в удобное для Вас время.
При заказе забора от 50 м – беспроводной звонок в подарок!
Оформление на месте.
А1 8029 / 8033 399-68-00



БЛОКИ ГАЗОСИЛИКАТНЫЕ
с доставкой и разгрузкой манипулятором
Возможно оформление в кредит
Тел. (8-044) 7626113 Велком
ЧТУП «Бетон» УНП 690658156



ВОКНЫ
танна
ад вытворцы
Тэл. (8-029) 394-64-99
(8-029) 763-00-32
ЧТУП «Бетон» УНП 690658156



МЕБЕЛЬ Люкс
Изготовление корпусной мебели под заказ любой сложности.
Собственное производство.
Доставка, сборка.
Тел. (8-029) 605-50-12
(8-029) 305-50-13
ООО «Завод Пенопласта» УНП 591179569



ОТДЕЛКА ДОМОВ САЙДИНГОМ
КРОВЕЛЬНЫЕ РАБОТЫ
ВОДОСТОК • УТЕПЛЕНИЕ
Замер бесплатно
Договор, качество
Тел. (8-029) 766-56-48
(8-029) 102-22-32
ИП Борисевич А.П. УНП 692027372



ТЕПЛИЦЫ
БЕСЕДКИ
ПОЛИКАРБОНАТ
WWW.AGROINVEST.BY
МОНТАЖ • ГАРАНТИЯ
РАССРОЧКА
ООО «Светопрозрачная кровля» УНП 591001987
(8033)373-80-20 МТС
(8029)324-80-20 А1



БЛАГОУСТРОЙСТВО ЗАХОРОНЕНИЙ
Бетонирование надгробных плит
Укладка плитки (иной декорации)
Установка памятников, оградок
Тел. (8-029) 230-40-91
ИП Желобкович А.В. УНП 691184770



ВСЁ для ЗАБОРОВ и КРОВЛИ
Сетка-рабица • Профнастил
Еврошгакетник • Ворота
Столбы • Арматура
Доставка • Установка
Тел. (8-029) 7040346
ИП Сташкевич А.М. УНП 692028195



ОАО «Управляющая компания холдинга «Забудова» приглашает на постоянную работу:
НАЧАЛЬНИКА УЧАСТКА ЭЛЕКТРОСЕТЕЙ И ПОДСТАНЦИЙ ОГЭ ЭНЕРГЕТИКА
ОПЕРАТОРА ПУЛЬТА УПРАВЛЕНИЯ В ПРОИЗВОДСТВЕ СТРОИТЕЛЬНЫХ ИЗДЕЛИЙ
СЛЕСАРЯ-РЕМОНТНИКА
Обращаться по тел. (8-0176) 7-24-810, (8-0176) 7-24-858
УНП 600042619

# На фронт – з блакаднага Ленінграда

## Як беларускі хлопец Сцяпан Філіпоўскі жыў і працаваў у блакадным горадзе, а пасля яго абараняў

**96-гадовы ветэран Другой сусветнай вайны Сцяпан Філіпоўскі жыве ў Маладзечне. Кажа, што адчувае сябе задавальняюча, толькі хадзіць цяжка з-за ранення. Сваякі клапоцяцца і дапамагаюць, таму і няма патрэбы нікуды выходзіць.**



Сцяпан Рыгоравіч разам з ветэранамі. Герой публікацыі ў верхнім шэразе другі справа.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

### Сям'я

Дачка Сцяпана Рыгоравіча Алена жыве ў Мінску, Ала – у Маладзечне. Ветэран мае чацвярых унукаў і чацвярых праўнукаў. Пра мужчыну заўсёды ёсць каму клапаціцца, гатаваць ежу.

### Да вайны

Філіпоўскі нарадзіўся ў горадзе Сураж Віцебскай вобласці. З Віцебшчыны набіралі юнакоў, каб вучыліся ў Ленінградзе. Да вайны малады чалавек паспеў павучыцца ў Ленінградскім фабрычна-заводскім вучылішчы №2, паехаў на вучобу ў 16 год. Прыгадвае, там было вельмі холадна. Снег раскопвалі, а птушкі проста замярзалі на марозе. А родным на Віцебшчыну прысылаў паштоўкі «Прывітанне з Ленінграда».

Сцяпан вучыўся на маляра. Было шмат практыкі, пастаянна клеілі і фарбавалі. Зарабляў 500 рублёў, што было добрым заробкам.

**З заробку яму вылічвалі грошы і пасля выдалі 500-рублёвую аблігацыю. Калі ехаў на фронт, палітрук збіраў па цягніку грошы на абарону. І гэту першую заробленую аблігацыю малады чалавек аддаў на патрэбы краіны.**

### Блакада

Калі ў час блакады пасылалі на працу, то выдавалі дадатковы талончык на харчаванне. Працавалі ў новых дамах каля завода імя Ламаносава. Але ежы было вельмі мала. Варылі лісце ліпы, елі сушаныя травы.

**Пасля таго як згарэлі склады з запасам ежы на некалькі год, хадзілі есці салодкую зямлю. Расплаўлены цукар зацёк пад падлогу, так што падымалі дошкі ў падлозе, каб дастаць яго.**

Дадатковыя талоны не кралі. Але памятае, як на яго вачах юнак адабраў хлеб у жанчыны. Іншыя яго б'юць, а ён запіхвае хлеб у рот. Але як там яго маглі пабіць – слабыя ўсе былі.

Прыгадвае, як аднойчы ішлі на працу ў кірунку Маскоўскага вакзала. Выбягае з пад'езда жанчына і крычыць: «Я ем сваё дзіця! Я ем вось гэту зямлю!» Людзі былі вельмі слабыя, ледзь хадзілі. І нават дадатковыя талоны не моцна ратавалі.

Сцяпан Рыгоравіч удзельнічаў у пабудове чыгункі ад Фінскага вакзала да Ладажскага возера. Пілавалі лес на шпалы для вузкакалейкі, засыпалі пясок пад шпалы.

Не было вады, электрычнасці. Палілі буржуйку. Пакутавалі ад вошай, страсалі іх у агонь. На першых паверхах дамоў ніхто не жыў. На іх людзі спраўлялі свае патрэбы, бо іншых варыянтаў не было.

**Перад 1 Мая ў 1942 годзе выдалі па два пачкі папярос, гарэлку, крыху ежы. І неяк адразу ўсе ў пакоі захварэлі на сыпны тыф. Але нічога не кралі. А папяросы юнак мяняў на хлеб.**

Быў адзін хлопец з прозвішчам Васільеў, добра іграў на гітары. Калі памёр, яго цела вырашылі занесці ў асобны пакой. Дык пасля туды і заносілі памерлых. Калі ішлі па Ленінградзе, бывала, бачыш, як жанчына вязе на санках загорнуты ў анучы трупік. Але і цягнуць больш не можа, губляе сілы побач з санкамі.

Галодная смерць вельмі страшная, расказвае Сцяпан Рыгоравіч. Чалавека так карожыць, аж пакуль не памрэ.

### Фронт

У армію Сцяпана Рыгоравіча прызвалі ў 1942 годзе. Абараняў Ленінград у 45 гвардзейскай дывізіі 134 палка.

**Падчас боя куля прайшла праз шчаку і выйшла ля вуха з іншага боку. Сківіца мужчыны была раздробленая. Пашанцавала, што не зачапіла мозг і ў шпіталі змаглі вылечыць.**

А ў шпіталь малады мужчына патрапіў на трэцця суткі пасля ранення. Бо адразу страціў прытомнасць, а калі ачуняў, перавярнуўся ў бок тылу і пачаў паўзці. Поле было ўсланае забітымі, байцы наступалі і перад боем, дзе раніла Філіпоўскага.

На другія суткі дапоўз да нямецкай зямлянкі, якую ўжо адваявалі. Там савецкі афіцэр пытаецца ў яго, дзе санчасць. Пакуль размаўлялі, якраз ля ўвахода грымнуў снарад. Афіцэр дапамог выбрацца. Санчасць была ў лазні, усю падлогу займалі раненыя. Медсястра перавязала галаву.

Да санчасці прыязджаў чалавек, які вазіў па трое раненых у шпіталь. Павёз Філіпоўскага, а калёсы перакуліліся. Праязджала машына і праехала па назе Сцяпана, але ўдалося выжыць.

### Пасля вайны

Пасля шпіталізацыі мужчына атрымаў інваліднасць і да канца вайны заставаўся ў Кіраве. Беларусь яшчэ была занятая нацыстамі, а вяртацца ў Ленінград было страшна – успаміны не дазвалялі. Пасля ж перамогі вярнуўся на радзіму.

**Пасля вайны Сцяпан Рыгоравіч атрымаў звесткі, што маці з братам і сястрой жывуць у Маладзечне.**

Немцы хацелі завезці іх у Германію ў палон, а партызаны паспелі вызваліць каля горада. Калі ўпершыню прыехаў у Маладзечна ў 1946 годзе, пабачыў два падбітыя нямецкія танкі. Адзін у раёне сённяшняга пуцепровода, другі ў былым будынку музея па Лібава-Роменскай.

Маці расказала, як не стала бацькі. Ён удзельнічаў у Першай сусветнай вайне, уся спіна была параненая аскепкамі. Падчас Другой сусветнай на Сураж напалі ворагі, бамбілі з самалётаў. Бацька на паліто цягнуў свайго сына, каб схавацца ў трубе пад дарогай. Нагу прастрэліла буйнакаліберным кулямётам. Калі ляжаў ранены каля дарогі, міма праходзіў узвод немцаў, яны дабілі мужчыну.

Пасля вайны ў Маладзечне Філіпоўскі працаваў на «Спадарожніку». Калі яшчэ працаваў, штогод хадзіў на парады ў гонар 9 Мая.



Падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Хлеб ва ўпакоўцы і чаканне будаўнічага сезона

## Як каранавірус паўплываў на працу прадпрымальнікаў на вёсцы

МЯДЗЕЛ
СМАРГОНЬ

**Ці ўплывае пандэмія каранавіруса на бізнес на вёсцы? Пра гэта мы пагутарылі з экспертамі, а таксама з прадпрымальнікамі з Мядзельшчыны і Смаргоншчыны.**



На фестывалі «Кола дзён», які штолета ладзяць прадпрымальнікі ў Камарове.

### Прадпрымальнікі з Мядзельшчыны: «Галоўнае – здароўе, а не бізнес»

**Эдуард** і **Ала Вайцяховічы** разам з аднадумцамі ад 2015 года адраджаюць мястэчка Камарова, што на Мядзельшчыне. Яны стараюцца захаваць будынкі былога каледжа, развіваюць мястэчка. Мясцовыя актывісты ўдзельнічаюць у конкурсаў Еўрасаюза і амбасады ЗША і атрымліваюць фінансаванне. За гэтыя грошы стварылі бізнес-інкубатар, дзе вучылі прадпрымальніцтву.

**Вайцяховічы пякуць хлеб па камароўскіх рэцэптах. Нядаўна набылі будынак былой кавярні, плануюць абсталяваць там гандлёвую залу, а яшчэ варыць сыры і піва.**

Пра тое, як паўплываў каранавірус на прадпрымальніцкую дзейнасць, мы пагутарылі з прадпрымальнікам, кансультантам бізнес-інкубатара Эдуардам Вайцяховічам.

– Канешне, пандэмія паўплывала на нашу дзейнасць. Пакуль быццам бы па дробязях. Але тым не менш. Раней хлеб, які пяклі, не ўпакоўвалі. Цяпер для яго патрэбная ўпакоўка. А гэта ўжо дадатковыя выдаткі. Да таго ж арганізацыі, з якім супрацоўнічаем, не ўсе працуюць, – дзеліцца суразмоўца.

Па яго назіраннях, пандэмія каранавіруса на вёсцы адчуваецца менш, бо тут не так шмат народу, як у гарадах.

– Нейкім чынам сітуацыя, якая складваецца, пацвярджае маю ідэю пра тое, што вёскі і бізнес у вёсках трэба развіваць, – кажа Эдуард.

І ўсё ж мужчына лічыць, што бізнес нікуды не дзенецца, а вось здароўе трэба берагчы.

### Прадпрымальнікі са Смаргоншчыны: будаўнічы сезон сёлета не пачаўся

Таксама мы пагутарылі з прадпрымальнікамі, якія трымаюць будаўнічыя крамы на Смаргоншчыне. Тут адказ ва ўсіх аднназначны – ранейшых выручак няма ўжо некалькі месяцаў.

> **– Так складвалася, што ў нашай будаўнічай краме зімой пакупнікоў заўсёды было менш. Такі «неўраджай» працягваўся да пачатку красавіка. А там пачынаўся будаўнічы сезон – і ў нас заўсёды былі добрыя выручкі, – кажа Ірына, гаспадыня адной з будаўнічых крам.**

Сёлета, па словах прадпрымальнікаў, пачатку будаўнічага сезона яны не адчулі. Чакалі яго пасля зімы, а ён так і не прыйшоў.

– Канешне, мы яшчэ не на той мяжы, каб зачыняць крамы. Пакуль яшчэ хапае заплаціць за арэнду і падаткі. Але ж даходы значна меншыя.

### Эксперт Алег Мазоль: будаўнічы бізнес у горадзе можа нават выйграць

Навуковы супрацоўнік цэнтра эканамічных даследаванняў Beroc **Алег Мазоль** лічыць, што прадпрымальнікі, якія займаюцца будаўнічым бізнесам у вялікі гарадах, могуць выйграць у сітуацыі з пандэміяй.

– Некаторыя людзі на самаізаляцыі, у іх з'явіўся вольны час. А гэта значыць, што яны могуць рамантаваць сваё жытло, нешта будаваць. Да таго ж з надыходам пандэміі стала распаўсюджанай анлайн-дастаўка. На вёсцы ж з будаўніцтвам могуць быць праблемы. Тут часцей ніжэйшы ўзровень даходаў. Ды і будуюцца людзі не так актыўна, як у гарадах.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Эдуард Вайцяховіч лічыць, што галоўнае – зберагчы здароўе, а бізнес нікуды не дзенецца.

Увогуле ж, на думку Алега, па вясковым бізнесе пандэмія ўдарыць менш, чым па гарадскім, хаця б таму, што ў вёсках жыве менш людзей, а гэта значыць, менш кантактаў.

### Эксперт Анастасія Лузгіна: развіццё бізнесу залежыць ад кірунку дзейнасці

Эксперт цэнтра эканамічных даследаванняў Beroc **Анастасія Лузгіна** лічыць, што на развіццё бізнесу ў сённяшніх умовах уплывае, перш за ўсё, не месца размяшчэння, а кірунак іх дзейнасці.

– Паслугі, якія патрабуюць фізічнага кантакту, сёння адчуваюць праблемы. Дастаўка і анлайн-сэрвіс у сённяшніх умовах выйграюць. Таму кавярні, піцэрыі, пякарні могуць перафарматаваць сваю дзейнасць, наладзіць дастаўку ці самавынас. Хай яны атрымаюць меншыя даходы, але працягнуць працаваць, – кажа Анастасія.

У той жа час, на думку эксперта, у вялікіх гарадах прадпрымальнікі маюць больш магчымасцяў для крэдытавання, чым іх вясковыя калегі. Гэта абумоўлена наяўнасцю банкаў у той ці іншай мясцовасці. Па меры росту анлайн-крэдытавання крэдыт можна будзе атрымаць аднолькава як у горадзе, так і ў сельскай мясцовасці.




Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

